© PDF: Kamunikat.org 2023


# Ніва

ТЫДНЁВІК ГП БГКТ

№ 3 (882) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 21 СТУДЗЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.


## ПРАДУКЦЫЯ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

Добра працавала тэкстыльная фабрыка ў Міхалове ў мінулым годзе. Прадукцыйныя планы, зрэшты, як кожны год, выконваліся тут рытмічна. Больш чым 260-асабовы калектыў фабрыкі прыняў абавязацельствы даць дадатковую прадукцыю ў так званай акцыі «20 мільярдаў». Тэкстыльных вырабаў, якія выпускае фабрыка (а выпускае 8 розных асартыментаў, напрыклад, цёплыя пледы ці сукно на плашчы), чакаюць людзі. Прадзільнае аддзяленне фабрыкі ў трэцім квартале дадаткова выпрадукавала больш 16 тыс. кілаграмаў пражы, а ткацкі цэх дадаткова выпусціў каля 24 тыс. метраў тканін.

Для зацікаўленых падаем, што фабрыка ў Міхалове, маючы два асноўныя цэхі, кожны дзень выпускае 2420 метраў тканін, а ў год выпускае каля 660 тыс. метраў.

Рабочы калектыў атрымаў сацыяльныя памяшканні. Ёсць тут душ для рабочых, сталовая, раздзявальня. На месцы пры фабрыцы існуе спажывецкі кіёск. Тут ра-

(Працяг на стар. 4)



*Мікалай Смаленскі — перадавы ткач.*



*Вера Фляк ля сваёй машыны.*




Ялоўка. Сёння яна ўсяго толькі ціхае прыгранічнае сяло ў Беластоцкім павеце, з даўняй і даволі багатай гісторыяй.

Калі ўзнікла першае людское паселішча над невялічкай рачулкай Ялоўкай, што працякала ўскрай Свіслоцкай пушчы — сёння без археалагічных раскопак цяжка ўстанавіць. Але не падлягае ніякаму сумненню, што да яго паўстання прычыніўся колішні рухлівы гасцінец. Ён вёў з Мазоўша цераз Бельск, Нарву, Свіслач і Ваўкавыск у Гродна, Слонім, Ліду, Навагрудак і іншыя гарады.

У кожным выпадку ў пачатку XVI стагоддзя Ялоўка была, відаць, значным паселішчам, калі 21 снежня 1545 года кароль Зыгмунт Аўгуст па просьбе каралевы Боны прызнае Ялоўцы магдэбургскае права. Вядома таксама, што ў 1623 і 1634 гадах ялоўскае староства ахоплівала горад Ялоўку і сёлы: Залесяне, Шымкі, Навасады, Лявоневічы, Луплянку, Падазераны, Дзягілі, Раманава, Вейкі, Кандраткі і шэраг іншых паселішчаў, раскіданых па лясных палянах. Затым у другой палавіне XVIII стагоддзя ялоўскае староства апынулася ва ўладанні магнацкага роду Гарайнаў, ад іх перайшло ў рукі Булгарынаў. Мястэчка на працягу чатырох стагоддзяў было для навакольных сёлаў цэнтрам рамяства і гандлю, а можа нават і ніклага ў тыя часы культурнага жыцця.

Непадалёк ад Ялоўкі ў вёсках Мастаўляны і Якушоўка прайшло дзяцінства і юнацтва вялікага правадыра паўстання 1863—1864 гадоў на Беларусі — Кастуся Каліноўскага.

*Дырэктар школы ў Ялоўцы Беластоцкага павету — Яўгіння Лешчук.*

Усё гэта міжвольна прыгадваецца пры ўездзе ў Ялоўку, калі бачыш направа ад шашы старадаўні будынак з чырвонай цэглы. Цяжка акрэсліць, якім мэтам ён служыў у колішняй Ялоўцы, сёння ж яго тоўстыя муры звіняць ад галасоў школьнікаў. Якім жа расце маладое пакаленне старажытнай мясціны і якія праблемы хвалююць яго выхавацеляў?

Дырэктар пачатковай школы і школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Ялоўцы Яўгіння Лешчук — выхаванка педагагічнага ліцэя ў Бельску, якая ўжо 11 год працуе ў школьніцтве, заўважае, што хоць дзеці і моладзь тут спакойныя і працавітыя, усё ж настаўнікі ў сваёй дзейнасці сустракаюць немалыя цяжкасці. Адукацыі і выхаванню дзяцей бацькі замнога часу не прысвячаюць, увесь гэты абавязак перадаюць школе. І настаўнікам самім прыходзіцца заглядаць пасля восьмай гадзіны вечара ў мясцовы клуб гаспадара або нават на вяселлі, каб прасачыць, ці часам там не знаходзяцца школьнікі.

Людзі ў Ялоўцы не прызвычаены да школы, і наведваюць яе толькі ў неадкладнай патрэбе. Таму дырэктар школы, хоць яна на гэтай пасадзе першы год, энергічна прыступіла да дзеяння.

Працяг на стар. 4

## Наш каляндар на 1973 г.

Можна ўжо купіць наш «Беларускі каляндар» на 1973 год. Ён каштуе ўсяго 15 злотых. Гэта тоўстая кніжка налічвае звыш 270 старонак друку, багата ілюстраваная фотаздымкамі, якія паказваюць прыгажосць і жыццё нашай роднай Беласточчыны. На іх мы бачым краявіды ў вёсках Абрубнікі, Галады, Гарадок, Белавежа, Новае Ляўкова, Паўлы, Вілянова, Цэцэлі, Макаўка; з гарадоў: Беластока, Гайнаўкі, Драгічына і іншых; яны паказваюць людзей, якія жывуць сярод нас. Гэта палітычныя і грамадскія дзеячы, актывісты БГКТ, удзельнікі аматарскага мастацкага руху: Станіслава Костра, Марыся Пракапюк і Барыс Младзяноўскі з Беластока, Анна Амельянюк з Грэдалёў, Уладзімір Назарка з Ціванюкоў, Мікалай Краўчук з Патокі, Ніна Мушынская з Гарадка, Зося Цацэрка з Баброўнікаў, Анна Стахвіюк з Трасцянкі, Ірка і Жэня Ігнацюк з фастаўскага камбіната, Жэня Яканюк і Ніна Салавей — студэнткі Вышэйшай настаўніцкай школы ў Беластоку, Валянціна Барташук і Жэня Максімюк з Грэдалёў, Вера і Марыся Манцюк з Рагачоў, Ірка Кандрат і Ірка Паўлючук з Гарадка, Людміла Рыбак і Вольга Самоцік — вучаніцы бельскага ліцэя, Юрка Харкевіч — вучань гайнаўскага ліцэя, Вера Кузьміцкая — вучаніца міхалоўскага ліцэя, Галіна Беглюк і Іра Назарук — школьніцы з Гайнаўкі, Марыся Смактуновіч з Нараўкі, Зося Міхалюк з Сяміхоч, Оля Парфенюк і Зіна Лабадзінская — вучаніцы клейніцкай школы, Зося Іванюк і Ліда Федарук з Плёсак, Валодзя і Аляксандр Леўчукі з Тыневіч Вялікіх; самадзейнікі з Міхалова, Рыбалаў і Паўлаў і многа, многа іншых.

Такое ўражанне стварае гэты каляндар пры першым, яшчэ павярхоўным з ім знаёмстве. А калі пачнем болей дакладна знаёміцца з яго зместам, тады хацелася б прачытаць усё. Бо вось ужо на першай старонцы каляндарнай часткі бачым, што кожны месяц абазначаны сваімі знакамі задыяку. А вось адкрываем каляндар на старонцы 264 і знаходзім апісанне лёсу чалавека ў залежнасці ад таго, пад якой зоркай, знаходзіцца, у якім месяцы ён нарадзіўся. За праўдзівасць гэтых прароцтваў аўтары не бяруць на сябе адказнасці, затое добрая забава гарантавана. У каляндарыуме знойдзеш усе святы: дзяржаўныя і рэлігійныя, паводле каталіцкага і праваслаўнага абрадаў. Указаны там таксама даты ўсіх важнейшых гістарычных падзей і імяніны — зноў паводле каталіцкага і праваслаўнага звычаяў.

Для прыкладу, Вялікдзень у гэтым годзе католікі святкуюць 22 красавіка (кветня), а праваслаўныя — 29, у студзені Паўлы-католікі адзначаюць свае імяніны 25 дня, а Паўлы-праваслаўныя — у нядзелю 28 дня месяца. Варта тут яшчэ прыгадаць актуальную прыказку з народнага календара, якая даецца на студзень: «Калі зімою мала снегу, мала будзе і дажджоў летам. Калі зіма снежная — лета дажджлівае. Зімою многа інею — летам многа расы». Значыць, трэба нам спадзявацца сухога лета. Такія прымаўкі каляндар прыводзіць на кожны месяц. Першая яго частка канчаецца расказам аб жыцці і навуковых працах Мікалая Каперніка — чалавека, які «спыніў Сонца, а рушыў Зямлю». Пра яго ў гэтым годзе гаворыць увесь свет з нагоды 500-ай гадавіны з дня нараджэння (19 лютага). Вялікаму польскаму астраному і гуманісту прысвячаецца таксама прыгожы верш Уладзіслава Бранеўскага, які на беларускую мову пераклаў Мікола Арочка.

А далей? Далей — раздзел «Люблю наш край», які адкрываецца цудоўнай паэмай Алеся Барскага, паэмай-гімнам, які ўспявае харатство і веліч нашых родных, нашых беластоцкіх мясцін — хто хацяб крыху кахае сваю Беласточчыну, той абавязкова павінен прачытаць гэтую паэму.

Самай важнай падзеяй у дзейнасці БГКТ у мінулым 1972 годзе быў VII з'езд. Каляндар адлюстроўвае найважнейшыя справы, якія спадарожнічалі гэтаму з'езду і былі на ім вырашаны. Удзельнікі такіх культурных мерапрыемстваў, як «Беларуская песня - 72», агляд драмгурткоў і іншых, знойдуць пра сябе ў календары асобныя артыкулы. Цікава чытаецца расказ аб далёкіх нашых продках, якія жылі на нашай зямлі яшчэ ў першым стагоддзі нашай эры. Напісаў пра іх вядомы археолаг Ян Яскані на аснове выкапаных прадметаў, якімі яны карысталіся. Тут таксама рэпартаж Мікалая Гайдука пра будаўнікоў вясковага дома культуры ў Вілянове, пра выстаўку беларускай савецкай кнігі ў Беластоку, пра некаторыя калядныя народныя звычаі ў вёсках Беласточчыны і іншыя.

Наступны раздзел адзначае вартыя ўвагі гадавіны 1973 года. Тут даюцца біяграфічныя нарысы пра беларускіх літаратараў Янку Маўра і Піліпа Пестрака, пра польскага паэта Людвіка Кандратовіча (Сыракомлю) і пра заслужанага даследчыка народнай культуры беларускага люду Міхала Федароўскага.

Вясковых аматараў мастацкай самадзейнасці зацікавіць рэпертуарны матэрыял, які прыносіць гэты каляндар у раздзеле «Наша сцэна». Настаўніца з Паўлаў Валянціна Мароз — Амельянюк адаптавала да патрэб вясковай сцэны і пераклала на беларускую мову некаторыя карціны з вядомай драмы Леана Кручкоўскага «Немцы». Гэтую смелую апрацоўку з поспехам ставілі

Працяг на стар. 4


© PDF: Kamunikat.org 2023

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

### ВІЗІТ ЯРАШЭВІЧА Ў ІНДЫЮ

Старшыня Савета Міністраў ПНР П. Ярашэвіч склаў афіцыйны візіт у Індыю. Адбыліся тут перагаворы паміж П. Ярашэвічам і І. Гандзі.

Варта падкрэсліць, што тавараабмен паміж Польшчай і Індыяй складаў 100 мільёнаў долараў у год, а праз тры гады, згодна з падпісаным тарговым пагадненнем, складзе ўжо 200 мільёнаў долараў. Але не толькі ў гандлёвай галіне развіваем мы з Індыяй кантакты. У часе перагавораў індыйскі бок выказаў жывое зацікаўленне польскай ацэнкай сітуацыі ў Еўропе.

П. Ярашэвіч запрасіў І. Гандзі, каб прыехала яна з афіцыйным візітам у Польшчу. Запрашэнне было прынята з задавальненнем.

### СССР — ФРАНЦЫЯ

У Заслаўі пад Мінскам адбыліся перагаворы паміж Генеральным сакратаром ЦК КПСС Л. Брэжневым і прэзідэнтам Францыі Ж. Пампіду. Быў гэта неафіцыйны візіт французскага прэзідэнта.

Ж. Пампіду, ацэньваючы сустрэчу, падкрэсліў, што ён вельмі задаволены вынікамі сустрэчы. Ён сказаў: перад сустрэчай меркавалі, што яна павінна добра закончыцца, а закончылася лепш, чым меркавалася. Сустрэчы такія сталі пастаянным элементам у савецка-французскіх суадносінах.

У часе сустрэчы гаварылася аб справах падрыхтоўваемай еўрапейскай нарады ў справах бяспекі і было сцверджана, што наступіла значнае паляпшэнне сітуацыі ў Еўропе. Былі таксама закрануты справы суадносін паміж СЭУ і Супольным рынкам. Падкрэслена, што абедзве дзяржавы выступаюць за скліканне сусветнай канферэнцыі па раззбраенню.

Прэзідэнт Ж. Пампіду запрасіў Л. Брэжнева ў Францыю. Запрашэнне было прынята з задавальненнем.

✲

Савецкія і французскія вучоныя супрацоўнічаюць цяпер у даследаваннях 30 буйных навуковых тэарэтычных праблем. Французская фірма «Рэно» распрацуе тэхнічны праект і паставіць камплектнае абсталяванне для буйнага завода па вытворчасці дызельных матораў. Савецкі Саюз прымае ўдзел у будаўніцтве металургічнага камбіната у французскім горадзе Фос-Сюр-Мер.

### ОРДЭН ЛЕНІНА — Г. ГУСАКУ

Адзначаючы выдатную ролю ў развіцці брацкай дружбы і супрацоўніцтва Савецкага Саюза і Чэхаславакіі, вялікі ўклад у справу ўмацавання міру і сацыялізму і ў сувязі з шасцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў генеральнага сакратара ЦК кампартыі Чэхаславакіі Густава Гусака ордэнам Леніна.

### САМАЯ ТРЫВОЖНАЯ ПАДЗЕЯ

Самай трывожнай падзеяй цяперашняга часу назваў няспынную вайну ў В'етнаме генеральны сакратар ААН К. Вальдхайм. На прэс-канферэнцыі ў ААН К. Вальдхайм выказаў «глыбокі смутак у сувязі з амерыканскімі бамбардзіроўкамі тэрыторыі ДРВ, асабліва цывільных аб'ектаў», што прыводзяць да шматлікіх чалавечых ахвяр. А. К.

### У ЦК КП БЕЛАРУСІ

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі адобрыў сацыялістычныя абавязацельствы работнікаў дзяржаўнага гандлю горада Барысава на 1973 год.

Адказваючы на Зварот ЦК КПСС, Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР і Савета Міністраў СССР «Да савецкага народа, працоўных усіх нацыянальнасцей Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», работнікі гандлю і грамадскага харчавання горада Барысава прынялі павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы па датэрміноваму выкананню планаў 1973 года.

### З ГРОДНА...

...паведамляюць, што з вельмі добрым настроем распачалі новы год працаўнікі Гродзенскага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Заданне 1972 года выканалі яны датэрмінова. Ды яшчэ паспелі выпусціць аж на 1 мільён звышпланавай прадукцыі. За поспехі ў сацыялістычным спаборніцтве калектыў гэтага прадпрыемства ўзнагароджаны Юбілейным ганаровым знакам. Рабочыя прадпрыемства рашылі план 1973 года завяршыць да 26 снежня.

### З БРЭСТА...

...паведамляюць, што панчошачнаму камбінату ў Брэсце прысвоена імя «50-годдзя СССР». План рэалізацыі прадукцыі за мінулы год камбінат выканаў у 104 працэнтах. Некаторыя панчохі з Брэста здабылі Дзяржаўны знак якасці.

Адказваючы на заклік «Аб разгортванні ўсесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва за датэрміновае выкананне народнагаспадарчага плана на 1973 год», працаўнікі Брэсцкага камбіната пастанавілі павялічыць выпуск прадукцыі на кожным станку і значна скараціць працоўныя затраты. Кожны рабочы ўзяў тут асабістыя павышаныя абавязацельствы.

### НАФТА ПАЛЕССЯ

У пачатку шасцідзесятых гадоў пакрочылі па Палессі першыя разведачныя буравыя брыгады. А ўжо 17 верасня 1964 года паблізу Рэчыцы была здабыта прамысловая нафта. Краіна атрымала «чорнае золата Беларусі». Адно за адным адкрываліся месцанараджэнні: Рэчыцкае, Цішкоўскае, Давыдаўскае, Вішанскае. А тая першая свідравіна дзейнічае і цяпер. Штодзённа дае яна да 160 тон высакаякаснай нафты. Першая свідравіна апынулася за сто метраў ад нафтаправода «Дружба», за 7 кіламетраў ад чыгункі, Такая знаходка была сюрпрызам. А гэта ж не ўсё. Перспектывы развіцця здабычы «чорнага золата» на Палессі шмат шырэйшыя. Толькі нядаўна буравікі даказалі нафтаноснасць пяці новых плошчаў: Барысаўскай, Усходнеперша-майскай, Залатухінскай, Паўднёва-асташковіцкай, Маладушынскай.

Сёння па ўзроўню здабычы беларускія нафтавікі ўжо абышлі калег з Дагестана, Саратава, Краснадара, з Сахаліна. Калі тэмпы росту застануцца нават такімі, як сёння, то да канца дзевятай пяцігодкі Беларусь увойдзе ў дзесятку лепшых нафтаносных раёнаў СССР. (вр)

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО І ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

10 студзеня адбылося ў Варшаве супольнае пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада, на якім былі разгледжаны прадпасылкі да апрацоўкі перспектыўнага плана загаспадарвання нашай краіны да 1990 года, які падрыхтавала Камісія планавання пры Радзе Міністраў.

На заканчэнне нарады яны былі прыняты Палітбюро і Прэзідыумам урада да рэалізацыі.

### НАРАДА ПАРТЫЙНАГА І ГАСПАДАРЧАГА АКТЫВУ

У Варшаўскім палацы культуры і навукі адбылася нарада партыйнага і гаспадарчага актыву пад кіраўніцтвам І сакратара ЦК ПАРП Э. Герка. Тэмай нарады была ацэнка дасягненняў у мінулым годзе і абмяркоўка задач на 1973 год, якія будуць мець асаблівае значэнне для далейшага развіцця Польшчы.

У перапынку агульнадзяржаўнай нарады члены Палітбюро ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада правялі сустрэчу з прадстаўнікамі перадавых прадпрыемстваў.

### ВІЗІТЫ Э. ГЕРКА

11 студзеня І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк наведаў гуту «Сталёвая Воля». Знаёміўся ён з прадукцыяй і сацыяльнымі ўмовамі рабочага калектыву. Сталявольскі камбінат ад нядаўна спецыялізуецца ў прадукцыі машын для будаўніцтва. Увесь рабочы калектыў гуты абавязаўся дадаткова выплавіць 6 тысяч тон сталі.

✲

13 студзеня Э. Герэк наведаў гуту «Берута» ў Чанстахове. Гэты металургічны камбінат будзе спецыялізавацца ў прадукцыі тоўстай бляхі для суднаў і машын. Рабочы калектыў абавязаўся здаць яго ў эксплуатацыю на 4 месяцы перад вызначаным тэрмінам, што дазволіць яшчэ ў гэтым годзе выпрадукаваць дадаткова 150 тысяч тон бляхі.

### СУСТРЭЧА Ў Г. ЯБЛОНСКАГА

13 студзеня старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі прыняў камісію Найвышэйшай ізбы кантролю з яе старшынёю М. Мочарам. Тэмай сустрэчы было актуальнае становішча дзяржаўнага кантролю і перспектывы яго паляпшэння.

### НАРАДА АКТЫВУ ЗСЛ

10 студзеня адбылася нарада цэнтральнага актыву ЗСЛ, якая прысвячалася праблемам палітычнай кампаніі перад VI кангрэсам ЗСЛ. На нарадзе былі абмеркаваны актуальныя палітычныя і грамадска-гаспадарчыя справы.

### ПЛЕНУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ ЗМС

10 студзеня адбыўся пленум Галоўнага праўлення ЗМС, на якім былі прыняты дакументы, падрыхтаваныя на з'езд гэтай арганізацыі, між іншым, справаздача аб дзейнасці ЗМС за мінулыя 5 гадоў і праект пастаноў да далейшай працы.

### КРЭДЫТ НА РАЗВІЦЦЁ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ ПРАДУКЦЫІ

35 мільярдаў злотых прызначыла наша дзяржава на развіццё сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1973 годзе. З гэтай сумы 10 мільярдаў злотых былі адведзены на пабудову інвентарскіх будынкаў. (ця)

### ГАНАРОВЫ ДЫПЛОМ

На днях І сакратар ВК ПАРП З. Куроўскі сустрэўся з прадстаўнікамі калектыву Элцкага будаўнічага прадпрыемства, якое з'яўляецца перадавым не толькі ў нашым ваяводстве, але і ва ўсёй краіне. За мінулы год прадпрыемства аддало ў карыстанне 22.710 кв. м жыллёвай плошчы, будынак насеннай цэнтралі, дзве школы і шэраг іншых аб'ектаў. З. Куроўскі ўручыў Элцкаму будаўнічаму прадпрыемству ганаровы дыплом Сакратарыята ЦК ПАРП і Прэзідыума ўрада за добрую працу і уклад двух мільёнаў злотых у банк «20 мільярдаў».

### СУСТРЭЧА З ВОЙСКАМ

11 студзеня І сакратар ВК партыі З. Куроўскі сустрэўся з салдатамі аднаго з гарнізонаў Варшаўскай вайсковай акругі. Сакратар цікавіўся працэсам падрыхтоўкі і выхавання салдат, а таксама ўдзелам войска ў працы грамадскім чынам на карысць гаспадарчага і культурнага развіцця рэгіёну. З. Куроўскі пазнаёміў афіцэраў з гаспадарчымі дасягненнямі Беластоцкага ваяводства і перспектывамі яго развіцця.

### ПЛЕНУМ ВК СД

12 студзеня адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта СД, прысвечанае дыскусіі над праектам пастановы да Х кангрэса Дэмакратычнага стронніцтва і над праектам новага статута СД, а таксама азнаямленню з планам і бюджэтам нашага ваяводства на гэты год. Старшыня ВК СД Р. Бартнік звярнуўся да пленума з просьбай аб звальненні яго з гэтай пасады. Пленум згадзіўся выканаць просьбу Р. Бартніка, пакідаючы яго аднак у складзе прэзідыума ВК СД. Новым старшынёй ВК СД быў выбраны З. Пукорскі.

### УРАЧЫСТАЕ ПАСЯДЖЭННЕ

13 студзеня адбылося ўрачыстае пасяджэнне камісіі гісторыі пры ВКЗЗ, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння СССР. На пасяджэнне запрошаны былі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад, старшыні акруговых праўленняў прафсаюзаў, члены камісіі і ветэраны рабочага руху. Праслуханы быў даклад на тэму «Савецкія прафсаюзы ў будаўніцтве сацыялізму і камунізму», а затым шырока былі прадстаўлены кантакты беластоцкіх рабочых з прафсаюзамі Беларусі і Літвы.

### ПАВЯТОВЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ ЗМВ

На Беласточчыне адбываюцца павятовыя праграмна-выбарныя канферэнцыі ЗМВ. Выбіраюцца дэлегаты на V краёвы з'езд ЗМВ, які адбудзецца 23—25 лютага. Удзельнічаюць у канферэнцыях старшыні гурткоў ЗМВ, члены пленумаў павятовых праўленняў, дзеячы арганізацыі. На краёвы з'езд ЗМВ паедзе з Беласточчыны 27 дэлегатаў.

### НАШЫ ФРУКТЫ НАЙЛЕПШЫЯ

Нядаўна цэнтральная лабараторыя ў Лодзі правяла даследаванні над марожанымі фруктамі, якія прадукуюцца халадзільнымі прадпрыемствамі нашай краіны. Найлепшымі аказаліся трускалкі, чорныя парэчкі і вішні з Беластоцкага халадзільнага прадпрыемства. Цэнтральны інспектарат якасці, прызнаючы заслугі нашага прадпрыемства, перадаў яго аддзелу стандартызацыі свае правы. (яч)




**Niedziela 21.I.**

7.35 Program. 7.40 TV Kurs Rolniczy. 8.15 „Przypominamy, radzimy". 8.25 „Alarm przeciwpożarowy trwa" 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Dla młodych widzów: Teleranek. 10.20 „Opisanie ciekawe gór Tatrów". 11.00 Sportowy magazyn sprawozdawczy. 13.00 Dziennik. 13.15 „Muzy bez etatu" — program poświęcony amatorskiemu ruchowi artystycznemu. 13.45 „Przemiany". 14.15 Dla dzieci „Gucio i Cezar" cz. II. 15.05 PKF. 15.15 „Warszawa w odbudowie i piosence". 15.45 „W Klubie" — wieczór pierwszy. 16.25 „Piosenka dla Ciebie". 17.15 „Kryteria". 17.30 „Ordynat Opinogórski" („Kobiety ich życia"). 18.50 „7896 piszczałek" — film TVP. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wielkanoc" — film („Chłopi") odc. IX. 20.55 „Próba próbą" — show rozrywkowy. 21.55 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 22.I.**

15.20 i 22.40 Politechnika TV. Fizyka. „Praca i moc prądu". 15.55 i 23.00 Politechnika TV. Fizyka. „Prąd elektryczny w elektrolitach". 16.25 Program. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 TV Kurier Lubelski. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: „Księżyc w nowiu". 21.20 „Spotkanie z pisarzem — Piotrem Wojciechowskim". 21.50 „Delfina Ambroziak śpiewa pieśni Manuela de Falli". 22.05 Dziennik.

**Wtorek 23.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski. 10.25 „Wielkanoc" — film („Chłopi") odc. IX. 11.15 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski. 13.15 Przerwa. 16.10 Program. 16.15 Dziennik. 16.25 Telewizja Młodych. 17.55 Podyskutujmy — Nasze pokolenie: aspiracje i możliwości. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Polityka dla wszystkich. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Operacja Belgrad" — film fab. jugosł. 21.25 Program publicystyczny. 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.20 „Bez przerywników" — śpiewają Ornella Vanoni i Johnny Dorelli.

**Środa 24.I.**

9.30 „Operacja Belgrad" — film fab. jugosł. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Historia. 11.25 Przerwa. 12.45 i 13.20 Mechanizacja Rolnictwa. 14.00 „Wybieramy zawód". 14.20 Przerwa. 15.20 i 23.20 Politechnika TV. Matematyka. 15.55 i 23.50 Politechnika TV. Matematyka. 16.25 Program. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Sekretarzyk Rodzinny". 17.10 Dla dzieci: „Małe kino". 17.40 „Informacje-Towary-Propozycje". 18.00 „Sylwetki X Muzy" — Aleksander Sewruk. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Postawy" — młodzieżowy dwutygodnik publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Studio 63: M. Żuławski — „Cukierki". 20.20 „Daria" — film fab. radz. cz. I. 21.45 „Świat i Polska". 22.20 „Mistrzowie batuty" — Zygmunt Latoszewski. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 25.I.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia. 9.30 „Daria" — film fab. radz. cz. I. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski. 11.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski. 12.25 Przerwa. 14.00 Matematyka w szkole. 14.30 Przerwa. 16.25 Program. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.45 PKF. 17.55 „ZSRR-50" — program przygotowany przez TV Radziecką. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Bunny Lake zaginęła" — film fab. ang. (od lat 16). 21.45 Program ekonomiczny. 22.20 „Ekspres nr 18". 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 26.I.**

8.10 „Bunny Lake zaginęła" — film fab. ang. (od lat 16). 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Geografia. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. III) „Tajemnica Królewskiego Zamku". 11.10 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Przysposobienie obronne. 12.25 Przerwa. 15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 i 23.45 Politechnika TV. Matematyka. 16.25 Program. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.25 „Nie tylko dla pań". 17.45 „Białoruś śpiewa". 18.15 „Turystyka i wypoczynek". 18.45 „Dialogi historyczne". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Ostatni rok" — film dok. TV Radz. — cz. III. 21.05 „Panorama Tygodnia". 21.45 Teatr TV: „Pułapka z mahoniu". 22.40 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Sobota 27.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia. 10.30 „Kto sieje wiatr" — film fab. 12.30 Przerwa. 15.25 Program. 15.30 Program I proponuje. 15.50 Redakcja Szkolna zapowiada. 16.05 TV Informator Wydawniczy. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Starcie". 17.10 Koncert Dziecięcego Zespołu Artystycznego. 17.40 „Spotkania z przyrodą". 18.10 „Dzień zwykłej pracy". 18.35 „Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 „Kto sieje wiatr" — film fab. 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.40 Teatr Rozrywki: — „Kto, z kim, kogo".




**Piątek, 19 stycznia**

11.00 Telewizja szkole. Życie i twórczość J. Kupały. 11.35 Nowiny. 11.45 Program dla szkół. 12.30 „Hej! — dziewczęta". 14.00 Szkoła szachów. 14.30 Program filmów dokumentalnych. 18.15 Rozmowy o sporcie. 18.45 Program dla uczniów. 20.10 „Towarzysz-piosenka". 22.10 Spektakl. 23.00 Program informacyjny.

**Sobota, 20 stycznia**

11.30 Program dla dzieci. 12.15 Tydzień planety. 12.30 Radziecka Ukraina. 14.30 Wiersze A. Kulaszowa. 15.10 Występ artystów T. Niżnikowej i I. Żynowicza. 16.00 „Antracyt" — film. 21.30 Ekran dokumentalny.

**Niedziela, 21 stycznia**

11.30 „Budzik". 12.30 Kiosk muzyczny. 13.00 Szachy. 13.30 Koncert. 14.40 Program filmów rysunkowych. 16.00 Sport. 18.15 „Klub kinopodróżników". 20.00 Hokej. 23.00 Czas. Program informacyjny. 0.30 „Lenin w Październiku" — film.




У маім партфелі ляжала скарга чытача «Нівы» на кіраўніцтва спулдзельні прадукцыйнай у Старакорніне, што на Гайнаўшчыне.

Сын заступаўся за бацьку.

Прыехаў сын у водпуск, даўно было ўжо пасля жніва, а ў бацькі жыта яшчэ на полі, бы ў гэтым вершы Някрасава пра адзінокую палоску. Забалела сэрца маладому.

— Чаму вы, тату, так занядбаліся? — пытае ён, а бацька б'ецца кулаком у грудзі.

— Не мая гэта віна, сынок, не мая... Спулдзельня ў Старакорніне вінавата. Абяцалі памагчы, значыць, камбайнам, я чакаў... чакаў і... яшчэ чакаю.

Абурыўся хлапец за такія адносіны і сам напер у Старакорніна.

«...Стаяць людзі, а між імі я. Прыслухоўваюся да іх размовы, у якой многа, многа слоў пра кіраўніка. Так мы ўсе стаялі і чакалі невядома каго і чаго. Кіраўнік спулдзельні не распытваў, у каго якая справа, каму што ўжо абяцаў, і пайшоў шукаць камбайнёра, які недзе прапаў пасля святкавання дажынак. Як пайшоў, так і сам прапаў. Чакаем, чакаем, а яго няма і няма. Дахадзіць гадзіна дзевятая, рабочы час, так стаяць з разложанымі рукамі не выпадае далей. Пайшоў я ў бюро спулдзельні. Заходжу, адчыніў адны дзверы, а там на стале паўно. Вядома, як пасля дажынак. Гляджу ў другі бок і бачу нейкіх 10 чалавек, а пасярэдзіне іх стаіць за сталом «наш» кіраўнік...»

Стоп. У гэтым месцы і я пачаў абурацца. Бо чытач — наш пан, і яго рацыя для нас святая рэч. Дык уладкаваўся я ў рэдакцыйны аўтамабіль і папер у Стары Корнін, каб разнесці ў пух і прах праўленне тамашняй спулдзельні. Старшыня Аляксей Тамашук сустракае мяне вельмі ветліва, запрашае ў бюро, дзе адбываліся гэтыя пасляджынкавыя «переражовіны». Пакойчык цесненькі, 10 чалавек ледзь бы сюды ўмясцілася.

«Хто аднак, думаю, глядзіць на цеснату, калі гарэлка на стале?»

Старшыня расказвае пра справы спулдзельні, якая існуе ад 1959 года і аб'ядноўвае 26 членаў. Апрацоўваюць яны супольна каля ста сарака гектараў зямлі. Кароў кожны з членаў гадуе на прысядзібным участку. Супольна затое займаюцца прадукцыяй курэй, так званых «бройлераў». У год выпускаюць іх 70 тысяч штук. Гэта іх асноўная крыніца прыбытку. На супольным полі сеюць авёс, жыта, рапс, грэчку, бульбу. Усё гэта пераважна ідзе пасля на насенне. Жывёлагадоўляй займуцца шырэй у 1974 годзе, калі пабудуюць кароўнік на 120 штук і ферму для адкорму 1200 свіней. Акрамя таго, старакорнінскія спулдзельцы запланавалі сабе прасторную шклярню, якая прыкрые — цяжка паверыць — аж 3000 квадратных метраў зямлі. Будуць таксама будаваць адміністрацыйны будынак, у якім знойдуцца і памяшканні для спецыялістаў, якіх спулдзельня будзе патрабаваць усё больш.

Слухаю я старшыню і думаю: тавары сабе на здароўе, бо зараз інакш заспяваеш... і пачынаю чытаць скаргу нашага чытача. Я чытаю, а старшыня бестурботна ўсміхаецца.

— Шкада часу, — урэшце спыняе мяне. — Я ўсё гэта ведаю. Нават магу вам сказаць, хто яе пісаў, хаця вы мне адрасу не паказалі.

Справа вельмі простая. Па-першае, спулдзельня прадукцыйная не з'яўляецца ўстановай для паслуг. То так, як бы вы мелі прэтэнзію да краўца, што не пашыў вам ботаў. Па-другое, мы не адмаўляемся ад дапамогі сялянам. Для прыкладу, у 1971 годзе на гэтай дапамозе зарабілі мы 240 тысяч злотых. За 1972 год падлікаў яшчэ няма, але не павінна быць менш, бо толькі адзін наш камбайн працаваў у аднаасобнікаў аж 390 гадзін. Аднак абавязаны мы дапамагаць у першую чаргу жыхарам Старакорніна, бо карыстаемся іх грамадскім фондам развіцця сельскай гаспадаркі. Сялянам з іншых вёсак пасылаем свае машыны толькі ў тых выпадках, калі не маем работы ў сябе. У гэтым годзе мы самі не маглі на сваім полі касіць камбайнам, асабліва ў вёсцы Бельшчызна, дзе па-суседску знаходзіцца поле гэтага гаспадара. Не дазволіў дождж. Па-трэцяе, той гаспадар не знаходзіцца ў нашым спіску патрабуючых дапамогі і не даваў нам задатку на правядзенне якіх-колеч прац, дык чаго ён хоча? Чаму тады ён чакаў камбайна?

— Так, гэта зразумела, але скажыце па шчырасці, як там з гэтай п'янкай...

— Тут мы грэшныя, калі гэта можна назваць грахом... Папярэдняга дня ў нас адбываліся раённыя дажынкі. Ведаеце, як гэта бывае... Госці з павету, з ваяводства, сваякі, знаёмыя... А ў нас людзі гасцінныя... ды ёсць з чаго быць гасцінным, калі на адзін працадзень прыпадае нашым спулдзельцам па 200 злотых... Асталося шмат чаго... не выкідаць жа нам было гэтага ўсяго... свінням.

Не, на гэты раз не магу згадзіцца з нашым чытачом, што ў старакорнінскай спулдзельні адны толькі гультаі, круцялі і злачынцы. У асобе старшыні Тамашука сустрэў я энергічнага чалавека, якому не чужое ўсё, што людское. Бо яшчэ мяркую, што замест таго, каб пісаць неабгрунтаваныя скаргі, лепш зрабіў бы гэты малады чалавек, каб узяўся за касу і дапамог бацьку выкасіць збожжа.

*В. Рудчык*




*Вольга Адамюк за кроснамі.*

*— Вось які прыгожы дыван падарыла мне маці, — пахвалілася нам Аліна Адамюк.*

ТКАЧЫХА

Ужо многа гадоў тчэ дываны Вольга Адамюк, жыхарка вёскі Ахрымы Гайнаўскага павету. Прыгожыя гэта дываны: лёгкія, мяккія, у розныя ўзоры і колеры. На сваіх кроснах Вольга Адамюк можа ткаць іх шырынёю ў 1,55 м. Каб выткаць такі дыван, патрэбны немалы вопыт і нямала часу. Але Вольга Адамюк з ранніх гадоў свайго жыцця палюбіла гэты занятак і не расстаецца з ім дагэтуль. Ад ткання адрывае яе бадай толькі жніво ды капанне бульбы.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкага*

## ДАМЫ ПАД ПАТРАНАТАМ ЗМС

Усё больш кватэр патрэбна нам, асабліва тым маладым, якія заводзяць новыя сем'і. Новай кватэры ў беластоцкіх жыллёвых кааператывах трэба цяпер чакаць ад 8 да 10 гадоў. Гэта многа. Маладзёжныя арганізацыі пачалі таму шукаць іншага выйсця з сітуацыі. Упершыню насустрач ініцыятыве пабудовы жыллёвых кватэр пад патранатам ЗМС выйшаў Беластоцкі жыллёвы кааператыў (БСМ). І так, у мінулым годзе першы жыллёвы блок, пры пабудове якога працавала моладзь, згуртаваная ў ЗМС, быў перададзены ў карыстанне ў канцы мінулага года. Ключы да ўласных кватэр атрымала 45 маладых асоб. Калі аднак узяць пад увагу колькасць усіх членаў сям'і гэтых шчасліўцаў, дык у гэтым будынку пасяліліся разам 165 асоб.

У мінулым годзе да пабудовы чатырох жыллёвых будынкаў пад патранатам ЗМС прыступіў другі беластоцкі жыллёвы кааператыў «Захэнта». Заключыў ён дагавор з 85 будучымі ўласнікамі сучасных гарадскіх кватэр, якія абавязаліся працаваць пры пабудове сваіх дамоў. Найбольш было ахвотных з мясных прадпрыемстваў, фабрыкі склеек і бровара. Праца моладзі дапаможа ім не толькі раней атрымаць кватэру, але таксама дазволіць адпрацаваць значную долю грашовага ўкладу, які абавязвае пры атрыманні кааператыўнай кватэры. (ця)




## ШТО З ГРУПАЙ РАІ!

Год пяць таму назад і болей цвіла ў вёсцы Літвінавічы праца драмгуртка. Штогод ставілі яны новую беларускую п'есу і збіралі „лаўры" на аглядах беларускіх драмгурткоў.

Згодны і працавіты калектыў літвінавіцкай моладзі адрамантаваў сваю святліцу. Улажылі сюды сваю фізічную працу і зароблены на выязных выступленнях драмгуртка грошы: Імкнуліся здабыць для святліцы тэлевізар і, хоць стараліся, не ўдалося ім. І так яно засталося, што няма тэлевізара ў літвінавіцкай святліцы. Тэлевізар не ўвайшоў яшчэ замоцна і ў жыццё вёскі. Толькі чатыры жыхары вёскі маюць прыватныя тэлевізары, а пяты меў купіць мой дзядзька напярэдадні Новага года. Усе згаджаюцца, што прыдаўся б вясковы тэлевізар у святліцы, супольны для ўсіх, але прайшоў час і старацца ўжо перасталі. Бо і згодны раней калектыў літвінавіцкай моладзі, здаецца, распаўся. Бывае яно так у жыцці, што ў адзін час арганізуецца творчая група, а потым наступае застой. І цяжка нават у кароткім артыкуле шукаць прычын гэтай з'явы.

Адно сказаць варта: складаўся калектыў з маладых людзей, больш-менш аднагодкаў, дзяўчат і хлопцаў, арганізаваных адначасова ў гуртку БГКТ і гуртку ЗМВ. Мелі яны супольныя ідэі.

Аднаго з гэтых маладых людзей, Аркадзія Навіцкага застала я на ягоным панадворку, як паіў карову пры студні. Прыемны, прыстойны і культурны хлапец! Прабую пытаць, чаму цяпер нічога яны не робяць. Адказ нялёгкі. Так само сабой на вёсцы неяк бывае. Размаўляем пра Раю Чыжык — дзяўчыну, якая была галоўным арганізатарам іхніх пачынанняў, пра Іру Мішчук — старшыню мясцовага гуртка ЗМВ. Абедзве перасталі займацца драматычным гуртком у вёсцы. Першая ўзяла працу прадаўшчыцы ў кіёску ў блізкіх Клюковічах — працу ад сёмай гадзіны раніцы да сёмай увечары, другая выбралася таксама на працу ў краме ў Тымянку. І хоць па сутнасці ўсе тыя самыя людзі жывуць у вёсцы далей, не праводзяць ужо арганізаванай грамадскай працы. Як бы пакінуў іх аўтэнтычны энтузіязм і кожны ўжо на ўласную руку будуе свой маленькі свет. Нудна ім цяпер, упаасобку. Аб гэтым успамінаў Аркадзій Навіцкі, але што рабіць, калі нават справа тэлевізара ў святліцы не выйшла і няма куды па сутнасці пайсці.

Ці можна мець жаль да Раі, да Іры, да іншых тутэйшых выдатных некалі дзеячоў, да хлапцоў, да ўсіх, якія тут дзейнічалі, а цяпер перасталі? А можа такі парадак жыцця?

Вёска Літвінавічы належыць да тых, якія мала ўрбанізаваны. Доўгі час яна жыла сваім уласным жыццём, у кругу мясцовых звычаяў і сваіх ініцыятыў, якія выплывалі з унутранай патрэбы гэтых людзей і звязвалі іх вясковую грамадскасць. Выхад маладых з вёскі — з'ява цяпер агульная. Прыйшоў час і на Літвінавічы. Тых маладых да дваццаці год фактычна ў вёсцы няма. Пайшлі ў школы, на работу паза гаспадаркай. Пакаленне маладых, аднагодкаў Раі, Іры, Аркадзія і іх сяброў — гэта людзі, якім ужо добрых пару год за дваццаць. І большасць з іх, што надта цікава ва ўмовах вёскі, не павыходзілі замуж і не пажаніліся. Не вельмі і вядома, чаму гэтак сталася. Факт, што цяпер штораз менш жэняцца ці выходзяць замуж у сваёй вёсцы, але чаму ж бы так удалой групе Раі Чыжык не шукаць сабе пар у ваколіцы? Ці выезды калектыву не спрыялі гэтаму? І каб больш ужо не разважаць пра былую цікавую групу Раі, Іры ці іншых з Літвінавіч, скажам, што зрабіла яна многа. Ці распалася назаўсёды? На гэта, падумаўшы, маглі б адказаць толькі яны самі. Маладзейшых ад іх у вёсцы, як кажуць людзі, няма. Няма, значыць, каму перанясць эстафету грамадскай культурнай працы. Дык не зробім памылкі, калі падкажам, што сама група Раі можа яшчэ ўзняцца і паказаць, што патрапіць.

*Вера Лейчук*

 

Пачатак на стар. 1




# У старажытнай мясціне

Перад усім актывізавала бацькоўскі камітэт і пры яго дапамозе зімою ў школе вучні будуць мець шклянку гарачай кавы з малаком, на занятні па практычна-тэхнічнаму выхаванню — матэрыял, узмоцніцца апека дарослых над дзецьмі ў часе іх прабывання па-за школай. Каб зацікавіць бацькоў выхаваўчымі справамі, пры школе будзе арганізаваны народны універсітэт педагагічных ведаў. База да такога пачыну ёсць: у школе працуюць настаўнікі з высокімі педагагічнымі кваліфікацыямі (3 асобы закончылі Вышэйшую настаўніцкую школу, 4 — Настаўніцкую студыю) ды і забеспячэнне навучальнымі дапаможнікамі ў школе належнае.

Ёсць у ялоўскай школе паказальныя дасягненні. Штогод шэраг яе выхаванкаў паступае ў агульнаадукацыйны ліцэй у Міхалове і ў сярэднія прафесіянальныя школы, а потым і ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Вось хоць бы ялаўчане Аліна Зубрэвіч і Яўгень Лешчук пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў вярнуліся ў сваю родную мясціну і цяпер працуюць тут настаўнікамі, быўшая выхаванка ялоўскай школы Ніна Раецкая працуе аграномам у сельскагаспадарчым кааператыве ў суседніх Кандратках, Юльян Ціжынскі пасля заканчэння палітэхнічнага інстытута працуе геолагам, шукае карысных выкапняў, скрытых у нетрах польскай зямлі. Выхаванкі школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі ў Ялоўцы таксама занялі належнае месца ў грамадскім жыцці. Мечыслаў Грыгаровіч з Ялоўкі з'яўляецца прыкладным гаспадаром і апякуецца грамадскай бібліятэкай, Тэрэса Матысюк з Навасадаў закончыла завочна сельскагаспадарчы тэхнікум і сама кіруе сваёй гаспадаркай, Пётр Турлінскі намерваецца абсталёўваць у Ялоўцы рыбныя саджалкі.


*У старажытным будынку ля ўезду ў Ялоўку знаходзіцца пачатковая школа і школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.* Фота М. Гайдука

Ды і сённяшняе пакаленне ялоўскіх школьнікаў не ўступае сваім старэйшым сябрам. Вучацца яны старанна, ахвотна выконваюць вучэбныя дапаможнікі, густоўна ўпрыгожваюць школу і даглядаюць за парадкам у яе наваколлі. У гэтым годзе школьная ашчадная каса заняла адно з першых месц у павеце. На яе ашчаднай кніжцы аказалася каля 15 тысяч злотых, і гэта пры 120 вучнях ва ўсёй школе!

А як адчуваюць сябе настаўнікі ў Ялоўцы? Нявесела. Пра якісьці культурны адпачынак у мясціне цяжка і думаць. Застаецца толькі сям'я, кніжка, часопіс, тэлевізар ды радыё. Але найгорш для тых з іх, хто не мае свае гаспадаркі. Забеспячэнне мясцовай крамы спажывецкімі прадуктамі вельмі мізэрнае: хлеб бывае толькі тры разы ў тыдзень, масла — вельмі рэдка, а вяндліны ж і зусім не паяўляюцца.

Некалькі год таму назад у Ялоўцы была прыватная пякарня, і ялаўчане кожны дзень мелі свежы хлеб і хрупасткія гарачыя булачкі. Аднак пекар, не атрымаўшы падтрымкі ад гаспадарчых устаноў з павету, зрокся свае пякарні і выехаў з Ялоўкі.

У мінулым годзе Ялоўка страціла статус грамады. У будынку былой грамадскай рады плануецца арганізаваць мясцовы пункт аховы здароўя. Не будзе гэта лёгкай справай, бо, напрыклад, у дасканала абсталяваным зубаўрачэбным кабінеце ўжо некалькі год няма спецыяліста, і ялаўчане з балючымі зубамі мусяць ездзіць у даволі далёкае Міхалова ці нават у Беласток. Адсутнасць дэнтыста асабліва адбіваецца на здароўі дзяцей у школьным узросце. Хвалюе ялоўскіх настаўнікаў і тое, што колькасць дзяцей у ваколіцы змяншаецца і школа з 8-класнай бадай будзе рэарганізавана ў 4-класную.

Так. У жыцці старажытнай мясціны ёсць свае праблескі, але ёсць і цені...

*Мікалай Гайдук*

# Кінуў матку

Канфлікт паміж пакаленнямі — канфлікт адвечны. Бацькі не заўсёды разумеюць сваіх дзяцей, дзеці не разумеюць сэнсу бацькоўскіх закідаў адносна моды, песняў, танцаў, адносна многіх іншых спраў. Многім бацькам не падабаецца, што па меры росту дзяцей змяншаецца іх дыктатура над імі. Вызваленне ад абсалютнай бацькоўскай улады не праходзіць спакойна, без непаразуменняў.

У вёсцы Хварасцяны ў Дуброўскім павеце дарослы сын Мар'ян Вільчэўскі хацеў быць незалежны ад маткі, якая няўмела, бязрадна гаспадарыла на сваіх зямельных угоддзях, хацеў апрацоўваць зямлю і развіваць жывёлагадоўлю паводле сваіх меркаванняў. Як сцвярджае Ян Савошка з мясцовай ГРН у Новым Двары, гаспадарка пачала ўздымацца, Мар'ян Вільчэўскі не слухаў маткі і працаваў па-свойму, планаваў будаваць новыя будынкі і збіраў на гэта грошы. А матка тым часам грошы адсылала замужняй дачцы ў горадзе, якой і без гэтага добра вялося. Ужо так ёсць, што той лепшы, хто на штодзень разам не жыве, той, хто знаходзіцца далёка. Так ёсць з дзецьмі, нявесткамі і зяцьмі, такая ўжо праўда.

У Вільчэўскіх адносіны паміж маткай і сынам сталі нязноснымі. Сын не хацеў крыўдзіць маткі, але хацеў гаспадарыць па-новаму і не мог далей выконваць яе часта неразумных загадаў. І дайшло да кульмінацыйнага пункту. Пакінуў матку адну на гаспадарцы, а сам паехаў працаваць у ПГР. А матка зноў гаспадарыць па-свойму. Гаспадарыць значна горш.

*Міхась Хмялеўскі*



(Працяг са стар. 1)

# НАШ КАЛЯНДАР НА 1973 ГОД!

паўлаўскія самадзейнікі. Можа паспрабуюць і іншыя?

Апошнія два раздзелы «Зямля і людзі» і «На гаспадарцы і ў хаце» прыносяць вялікае багацце розных фактаў і парад, якія культурнаму чалавеку проста не выпадае не ведаць. Значную частку з іх, каб больш былі зразумелыя, аўтары прыводзяць на польскай мове.

Рэдактарам календара быў Георгій Валкавыцкі, а дапамагалі яму Стэфан Рыбі (мастак), Ада Чэчуга (праўшчык), Міхась Папоў (тэхрэдактар) і Валянціна Жэшка — карэктар.

Гэты каляндар варты таго, каб стаў настольнай кніжкай у кожнай беларускай сям'і, да якой у свабодны час пастаянна з прыемнасцю будзе заглядаць чалавек і заўсёды знойдзе ў ім штосьці цікавага — то прымаўку, то здымак, то верш, то інфармацыю аб гаспадарскіх справах. Дык варта яго купіць. «Беларускі каляндар» на 1973 год, як і заўсёды, прадаюць усе павятовыя і гарадскія аддзелы БГКТ, а ў Беластоку атрымаць яго можна ў «Ніве» і ў Галоўным праўленні БГКТ на Варшаўскай вуліцы, № 11. *(М. Н.)*


*Ядвіга Маленда з'яўляецца кантралёрам якасці прадукаваных тут тканін. Гэтыя машыны пакажуць, ці ніткі адпаведна моцныя. Я. Маленда працуе на фабрыцы 15 год.*

(Працяг са стар. 1)

# ПРАДУКЦЫЯ ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

бочыя адразу пасля працы могуць купіць патрэбныя прадукты. Да аднаго можна мець жаль — памяшканне кіёска вельмі малое і нязручнае.

Міхалоўская тэкстыльная фабрыка, афіцыяльнае названне якой Беластоцкае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя Сяржана ў Беластоку, мае самаахвярны рабочы калектыў. Працуе тут шмат доўгагадовых перадавых рабочых, якія ўзорна працуюць, выконваючы і перавыконваючы планы. А вось некаторыя з іх: Вера Самойлік, Галена Бабко, Вера Фляк, Валянціна Лях, Зіна Супрун ці Мікалай Смаленскі.


*Нават пры ўстарэўшых машынах міхалоўскія тэкстыльшчыкі перавыконваюць планы.* *Тэкст і фота А. Карпюк*




# ПЕРЫЯД XIX СТАГОДДЗЯ

## АЛЬГЕРД АБУХОВІЧ

Нарадзіўся Абуховіч у 1840 годзе на Случчыне. На жаль, не ведаем, калі памёр. Паводле адных даследчыкаў, памёр ён у 1898 годзе, паводле другіх, у 1905 годзе. Ведаем, што паходзіў ён з багатай памешчыцкай сям'і. Гэта дазволіла яму падарожнічаць па многіх краінах Заходняй Еўропы. На даўжэйшы час затрымаўся ён у Парыжы. Кантакт з Захадам, знаёмства з многімі палітычнымі арыентацыямі прычыніліся да таго, што Абуховіч стаўся чалавекам талеранцыі і шырокіх дэмакратычных поглядаў.

У юнацтве Абуховіч закончыў Слуцкую пратэстанцкую семінарыю і пасля стаў працаваць у гэтай школе. Ужо хаця б з тае рацыі, што быў звязаны з пратэстанцкай школай, не мог належаць да дагматыкаў. Не належаў таксама да прыхільнікаў царскай сістэмы. Варожасць да гэтай сістэмы завяла яго ў лагер паўстанцаў 1863 года.

Няма сумненняў, што Абуховіч быў чалавекам, надзеленым сапраўдным літаратурным талентам. Калі б жыў ва ўмовах жыцця свабоднага народа, напэўна напісаў бы выдатныя творы. Жыў аднак у той перыяд, калі Беларусь была знявалена Рускай імперыяй, калі ідэі самадзяржаўя і фальшывай народнасці бязлітасна знішчалі ўсё тое, што ў нашым народзе было шчырым і творчым.

Абуховіч ведаў асабіста Багушэвіча. Відавочна, творчасць Багушэвіча аказвала ўплыў на творчасць Абуховіча. Не значыць гэта, што Абуховіч паўтараў тое, што сказалі іншыя пісьменнікі. Ішоў ён сваёй дарогай. У сувязі з тым, што Багушэвіч крытычна аднёсся да мовы і стылістыкі твораў Абуховіча, гэты апошні ўступіў у палёміку з сваім апанентам. Трэба сказаць, што чысціня літаратурнай мовы Абуховіча не была меншай, чым чысціня мовы Багушэвіча. Пры гэтым Абуховіч зусім правільна лічыў, што ў беларускай мове ў канцы XIX ст. усе дыялекты мелі роўныя правы і што толькі час мог даць перавагу адной ці другой беларускай гаворцы. Момант палемікі з Багушэвічам знайшоў месца і ў „Мемуарах" Абуховіча. Цікава будзе прывесці фрагмент успамінаў Абуховіча, звязаны з гэтай палемікай.

„Праглядаючы мае вершы, Францішак Багушэвіч зрабіў увагу, што ў мяне не ўсюды бываюць уласцівыя беларускай мове акцэнты. На гэта я яму адпісаў:

*У гаворцы ёсць ружніца*
*Між маёю і Тваёю.*
*Маёй — пушчы Птыч граніца;*
*Ты Панырскі салавей!*

Гэта значыць, у Беларусі ёсць многа асобных дыялектаў-гутарак, і ў гаворцы між Магілёвам, Мозырам і Гродняй бывае вялікая розніца не толькі ў акцэнтах, але ёсць і многа цікавых правінцыяналізмаў.

... мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб выказаць, што я хачу, каб пачулі мысль маю і каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літаратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядома яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа".

Разумна і пераканаўча. Так можа гаварыць толькі гуманіст, які думае катэгорыямі ўсёй сваёй нацыі, адначасова не забываючыся аб спецыфіцы асобных рэгіёнаў сваёй краіны.

Цікавы і іншы аспект. Аспект нацыянальнай свядомасці пісьменніка. Якая ж іншая гэтая свядомасць, чым свядомасць Дуніна-Марцінкевіча, які літаваўся над беларускім сялянствам, ратаваў яго, пісаў для яго маралізатарскія казачныя творы, хацеў навучыць беларускага селяніна кахаць шляхецкую Рэчпаспалітую. У Абуховіча не засталося нават следу такой маралі. Ужо ў прыведзеным фрагменце «Мемуараў» выступаюць факты, якія сведчаць аб тым, што Абуховіч поўнасцю атоесамліваецца з беларускай нацыяй і беларускай свядомасцю.

Такія фармуліроўкі, як: «каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры», «я кладу ў літаратуру прыродны дыялект беларускай мовы», сведчаць аб тым, што пісьменнік не служыць ужо ніякай ідэі, ніякай іншай нацыі, апрача ідэі свайго роднага народу, а «свой», і «наш» — гэта для Абуховіча «беларускі». Без гэтай службы няма нацыянальнага пісьменніка. Абуховіч мог ім стаць, але не стаў. Дзікія ўмовы тыраніі не дазволілі Абуховічу ні развіць сваіх творчых сіл, ні давесці іх да народу. Бадай ніводзін з



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Найбрыдчэйшы кусок дарогі

У жыцці не давялося ехаць такой кепскай дарогай. Па-праўдзе, цяжка і казаць, што ехалася па дарозе. Ехалася па полі побач дарогі. Было яно замерзшае і можна было па ім праехаць. Бачылі мы, зрэшты, як гаспадар возам таксама ехаў полем, а не дарогай. Пра якую дарогу так брыдка гаворым? Кусок такой дарогі спалучае вёску Малінніки з Грыгораўцамі. Дзіркі ў ёй можа на метр глыбокія, размешана, разбіта страшна! Калі б не мароз скаваў зямлю, ніякія колы і ніякія ногі не прайшлі б і не праехалі сюдою. Мо нават трактар заграз бы. І аж дзівуешся, што людзі не знервуюцца і не навозяць сюды хоць крыху жвіру. (вл)

## ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### ДЗЯВОЧАЯ ПЕСНЯ

Ціха вецер ў садзе
Яблыню калыша,
а да мяне мілы
чамусьці не піша.

Мо ляжыць ён хворы,
мо заленаваўся,
а мо чорнабровы
ў другой закахаўся.

Як заленаваўся,
— яшчэ адазвецца,
а як закахаўся —
то ўжо не вярнецца.

Парастуць сцяжынкі
травою густою,
па якіх гулялі
з мілым мы вясною.

Буду адзінокай
па садзе гуляць,
з дня на дзень я буду
мілага чакаць.

Ціха ў грудзях, ціха
сэрца маё б'ецца
і усё пытае,
ці мілы вярнецца.

А ў адказ салоўка
сумна мне спявае:
«Дарэмна, дзяўчына,
мілага чакаеш.

Ён цяпер з другою
па садзе гуляе,
пра цябе, дзяўчына,
навек забывае».

Ой, я нешчаслівa,
што ж цяпер пачаці,
не магу пакінуць,
не магу кахаці.

Буду кожну ночку
ў садочку чакаці,
пакуль ўзыйдзе зорка,
каб гора расказаці.

*Міхась Шаховіч*

## Сардэчныя тайны

*Дарагое «Сэрцайка»!*

Пішу я да цябе, «Сэрцайка», яшчэ першае пісьмо. Жыву я на вёсцы. Мне нядаўна споўнілася 18 год. Вось, дарагое «Сэрцайка», хачу я табе напісаць аб адной важнай справе. Нядаўна ў нашай вёсцы былі манцёры. Рабілі яны святло ў нашай і суседніх вёсках. Адзін з іх мне спадабаўся. Завуць яго Міша. Я яму таксама вельмі спадабалася. Ад гэтага часу ён пачаў прыходзіць да мяне на вечаркі. Ён яшчэ перад войскам. Гаварыў, што мяне кахае. Я яго таксама пакахала. Два тыдні, пакуль манцёры былі ў вёсцы, ён прыходзіў да мяне. Скончыліся работы, і Міша паехаў дадому, але казаў, што да мяне вернецца. Зараз жа пасля яго ад'езду я даведалася ад гаспадыні, у якой ён жыў, што Міша мае нарачоную, з якой даўно ўжо ходзіць і будзе з ёю жаніцца. Пра гэта ён казаў гаспадыні. Гэта было мне не па сэрцы. Я цэлы дзень усё думала пра Мішу і дагэтуль не магу яго забыць. Але не гэта найважнейшае. Я баюся, што мо я цяжарная, сама не ведаю. Аб гэтай справе не ведаюць яшчэ і мае бацькі. Ці сказаць аб гэтым бацькам ці не? Чакаю як найхутчэйшай парады ад цябе, «Сэрцайка». За параду буду вельмі ўдзячна.

*Бася з Гайнаўшчыны*

Бася! Ты паступіла лёгкадумна і неразважліва! Даверылася хлопцу, якога зусім не ведаеш: хто ён, адкуль, жанаты ці не? Табе хапіла яго прыгожых слоў — дзявочая наіўнасць! А, бачыш, табе гаварыў так, гаспадыні інакш. Ён жа сёння тут, заўтра там, і спадзявацца, што ён да цябе вернецца, няма чаго! І вось гэтая цяжарнасць. Ці ты цяжарная ці не, напэўна да гэтай пары ты ведаеш. Калі пачулася цяжарнай, раю неадкладна сказаць аб гэтым маці. Вядома, размова не будзе прыемнай, але яна абавязкова. Маці найлепш параіць табе, што рабіць: пазбыцца, ці радзіць. Калі вырашыце пазбыцца цяжарнасці, дык абавязкова звярніся да лекара. Гэта трэба зрабіць як найхутчэй. Толькі памятай аб адным: Пазбываючыся першай цяжарнасці, можна ўжо ніколі не мець больш дзяцей! А мо ўсё ў парадку, толькі, як кажуць, «наелася ты страху». Так ці інакш, хай твой неразважлівы паступак будзе навукай на будучыню табе і многім іншым маладым дзяўчатам.

Дык жадаю ўсяго найлепшага!

*«Сэрцайка»*

## У крамах павінна быць цёпла

У зімні перыяд у многіх вясковых крамах бывае холадна. Печкі, пабудаваныя ў іх з думкай аб ацяпленні, не спаўняюць свае ролі. Нават у новых гандлёвых павільёнах, якія ёсць у Залуках Беластоцкага павету ці ў Старым Ляўкове і Плянце Гайнаўскага павету, прадаўшчыцы мерзнуць ад холаду. Цяжка даводзіцца ім працаваць нават пры невялікім марозіку. Печаў найчасцей ніхто не рамантуе і яны не «цягнуць». Дым сцелецца па краме, грызе ў вочы кожнага пакупніка, а ўнутры як было холадна, так і не цяплее. Зрэшты, ці могуць абагрэць вялікую краму выслужаныя адна або дзве печкі? Скардзіліся нам на холад у крамах шматлікія прадаўшчыцы. Не дапамагае гарачы чай. Прыходзіцца незаслужана гібець. І як тут быць ветлівым ды ўсміхацца да кліентаў?

На нашу думку, ПЗГС-ы павінны паклапаціцца аб больш функцыянальным электрычным ацяпленні. Бо і не кожны харч можна перахоўваць у нізкіх тэмпературах. (ця)

## АКТЫВІСТКА БГКТ

Галена Мялешка з Пуціск Гайнаўскага павету актыўна працуе ў БГКТ, асабліва выдзяляецца ў распаўсюджванні выданняў ГП БГКТ і папулярызацыі «Нівы».

*Фота В. Буры.*

### У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

У рамках святкавання 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, 21 снежня м. г. Бельскі беларускі ліцэй і пачатковую школу № 3 наведалі госці. У суправаджэнні прадстаўніка Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. А. Давідзюка, сакратара павятовага камітэта ПАРП у Бельску тав. Р. Матосюка і школьнага інспектара М. Татарчука прыбыў дацэнт педінстытута ў Гродне Сяргей Гаўрусевіч.

Госці, наведваючы школьны аб'ект, асабліва цікавіліся класа-кабінетамі, іх абсталяваннем і выкарыстаннем.

Пасля адбылася сустрэча. На яе прыбыла дэлегацыя моладзі і настаўнікі з ліцэя. Вучні са шчырым задавальненнем прывіталі гасцей, уручылі ім кветкі, а пры развітанні Г. Шурбак, вучаніца кл. IV б, са словамі падзякі ўручыла гродзенскаму госцю падарунак — памятку народнага мастацтва з Бельшчыны.

У пачатковай школе на сустрэчу сабралася група гарцэраў. Прывітанне перадала вучаніца VIII класа К. Парфенюк.

Госць з Гродна выказаў сваё задавальненне пабыўкай ў школе, яе чысцінёю, дэкарацыяй, класа-кабінетамі і праграмай навучання беларускай мовы.

*Адрас і прозвішча вядомы рэдакцыі.*

*Новы кіёск «Руху» на гайнаўскай вуліцы. Зараз ёсць іх тут чатыры.*

*Фота Я. Цялушэцкага*

## наша ПОШТА

*Клара Плёс.* Вершы нас зацікавілі. Напішыце крыху аб сабе.

*М. Панфілюк, Дубічы Царкоўныя.* Дзякуем за клопаты аб нас. Што датычыць «Трэндаватай», дык нічога памагчы не можам. Чулі мы, што была яна ў адной беластоцкай кнігарні. Такія кніжкі ідуць з-пад палы: не паспеў пачуць, а іх ужо няма.

---

перад, паварот, восем крокаў назад — прыносіла генералу задавальненне. У галаве прымала рэальныя абрысы ідэя, якую ён песціў вось ужо каля двух год, — з таго часу, як яму ўдалося перанесці адзін удар за другім: пад Калінінам, Ярцавам, каля Оршы, ля Полацка... Праўда, і ён іншы раз трыумфаваў, калі ўдавалася ўтрымаць які-небудзь участак фронту, ці вырваць з варожых кляшчоў якую-небудзь групоўку. Але ўрэшце яго адкінулі назад на адлегласць, што была толькі крышачку карацейшая за адлегласць паміж Парыжам і Берлінам. А гэта ж для любога палкаводца мінус у яго кар'еры.

Генерал крочыў па пакоі, і адно вейка яго торгалася. Цік пачаўся яшчэ тады, калі ў першую зіму вайны партызаны выбілі яго з Растова. Вейка торгалася разы са два ў мінуту з кароткімі ці больш працяглымі інтэрваламі. Але раптам яно перастала торгацца. «Аперацыя «Бумеранг», — падумаў генерал. Назва прыйшла яшчэ тады, адначасова з ідэяй. — Рускія прыдумалі партызан, — разважаў ён. — Цяпер я выкарыстаю гэта супраць іх». Генерал рэзка павярнуўся да Кноблаха:

— Вы думаеце, група яшчэ існуе?

— Так, — энергічна адказаў Кноблах. — Нават упэўнены ў гэтым! Тысяча пяцьсот чалавек, з якіх баяздольных — тысяча чатырыста ўзброеных салдат і афіцэраў. З таго раёна рускія знялі амаль усё і кінулі на захад. Некалькі разоў падпалкоўнік Грэльхамер спрабаваў звязацца па радыё з камандаваннем, але ўсе спробы былі марныя, а потым радыёапаратура далёкага дзеяння сапсавалася. Тады ён загадаў нам выбрацца з акружэння і паклікаць дапамогу.

У кабінет прынеслі геаграфічную карту.

— Вось тут, — пасля нядоўгіх пошукаў сказаў Кноблах, тыцнуўшы пальцам у карту. — На поўнач ад Віцебска, у гэтым лесе, каля дзесяці кіламетраў на захад ад гэтай вось вёскі, на гэтай рацэ. Тут і стаіць Грэльхамер.

— Вазьміце яшчэ адзін бутэрброд, — сказаў генерал. Сваім унутраным зрокам ён убачыў гэты лес і тысячу пяцьсот нямецкіх салдат і афіцэраў, што чакаюць дапамогі. Рускія не даюць ім пераправіцца цераз рэчку, паставіўшы на другім баку заслон — для гэтага многа войск не трэба. Так і сядзіць Грэльхамер у пастцы, вельмі здольны афіцэр, якога ён ужо шэсць тыдняў лічыў загінуўшым, а ён жывы!

— Вось тут, пан генерал, — тлумачыў Кноблах, жуючы пяты бутэрброд, — на гэтым месцы нашы выставяць пост. Тут будзе чакаць обер-лейтэнант па прозвішчу Вайтхазе. У гэтым участку лесу ён будзе хавацца, а кожныя аўторак і суботу ў тры гадзіны ночы будзе прыходзіць на гэты ўзлесак.

«Цудоўная магчымасць, — падумаў генерал. — Самалётамі пашлем ім усё неабходнае. Прывядзем у дзеянне гэткую масу людзей!» — Ён падміргнуў ад'ютанту, даючы гэтым знак падысці, і загадаў падаць яму маленькі куфэрак, з якога выняў «Жалезны крыж» і прышпіліў да грудзей Кноблаха.

*(Працяг будзе)*

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Zdobywcy nieba" (radz.), 23—24. „Ostatnia gra Karina" (radz.), 25—26. „Śledztwo w sprawie obywatela poza wszelkim podejrzeniem" (włoski), 27—28.

**Нараўка**
„Agent Nr 1" (polski), „Jaskółki" (węgierski), 24—28.

**Нарва**
„Oficerowie" (radz.), „Umrzeć z miłości" (franc.), 24—28

**Чыжы**
„Wujaszek Wania" (radz.), „Wojenka, wojenka" (węgierski), 24—28.

**Дубічы Царкоўныя**
„Tylko jeden telefon" (węgierski), „Królowa stacji benzynowej" (radz.), 24—28

**Арэшкава**
„Orzeł w klatce" (jugosł.), „Oczami przyjaciół" (polski), 27—28

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Бонькі**
„Uciec jak najbliżej" (polski), „Krzyżacy" (polski), 24—28.

**Орля**
„Kupujemy wóz strażacki" (NRD), „Testament Agi" (węgierski), 24—28.

**Райск**
„Seksolatki" (polski), „Kaukazka branka" (radz), 24—28.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przeciwko Bogom" (polski), 23—24. „Sokoły" (węgierski), 25—26. „Pilot helikoptera" (radz), 27—28.

**Шудзялава**
„Kamo znany osobiście" (radz), Kamo niebezpieczna misja" (radz), 24—28.

**Янаў**
„Tam, gdzie rośnie czerwony bór" (jugosł.), 24—28.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wielka miłość" (franc.), 23—24. „Kochany drapieżnik" (radz.) 25—26. „Krzyżacy" (polski), 27—28.

**Мельнік**
„Giuseppe w Warszawie" (polski), 23—24. „Śmierć Ipu" (rum.) 25—26. „Królewski błąd" (czeski), 27—28.

**Мілейчыцы**
„Zwariowana noc" (polski), 23—24. „Lekcja odwagi" (czeski), 25—26. „Szczęście Anny" (radz.), 27—28.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Tam, gdzie rośnie czerwony bór" (jugosł.), „Hełm Aleksandra Macedońskiego" (radz.), 24—28.

**Новы Двор**
„Agent nr 1" (polski), „Okruchy życia" (franc.), 24—28.

Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

BZGraf. Nakład 7.410 K-1

